

Газета заснавана ў 1938 годзе. Адноўлена ў 1997 годзе.

# Газета Слонімская

№6 (192). 8 — 14 лютага 2001г. Масава-палітычны штотыднёвік http://gs.promedia.minsk.by Кошт 120 руб.

НАВІНЫ

## Киловатт накаляется в цене

**Постановлением Министерства экономики с 1 февраля в Беларуси на 20,8 процента повышены тарифы на электроэнергию для населения.**

Население городов, проживающее в домах с газовыми плитами, будет платить 17,4 рубля за киловатт-час электроэнергии (ранее – 14,4 рубля), население городов, проживающее в домах с электроплитами, а также сельское население – 12,6 рубля (10,4).

По сведениям БелаПАН, новый тариф на электроэнергию будет покрывать её себестоимость на 57 процентов (прежний покрывал на 47 процентов).

Предыдущее повышение тарифов на электроэнергию для населения произошло 11 сентября 2000 года (в 2 раза). В целом же по итогам 2000 года электроэнергия для населения подорожала в 10—10,7 раза.

**Дмитрий ВЛАСОВ**

## Узяты пад ахову новыя помнікі прыроды

**Нядаўна Міністэрства прыроды Беларусі аб'явіла помнікамі прыроды дзесяць валуноў на Слонімшчыне і Мастоўшчыне.**

Помнікамі прыроды мясцовага значэння ў Шчучынскім раёне былі аб'яўлены два старажытныя паркі ў вёсках Ражанка і Галавічпол'е. З абласнога фонда аховы прыроды ў мінулым годзе было асвоена 500 тысяч рублёў на рэканструкцыю парка "Жыбартоўшчына" ў Дзятлаўскім раёне.

У мінулым годзе ў вобласці былі ўзяты пад ахову 28 відаў раслін, 13 відаў насякомых, 8 відаў птушак і адзін від жывёл – барсукі.

**Наталля ФУРСАВА**

## Нападение на журналиста

**Вечером 2 февраля на окраине Минска совершена попытка нападения на корреспондента информационной компании БелаПАН Марата Горевого.**

Утром 5 февраля журналист обратился с заявлением в районное управление внутренних дел Минского района в связи с происшествием.

По мнению Марата Горевого, нападение не было похоже на попытку ограбления. Он считает, что этот инцидент может быть связан с его профессиональной деятельностью.

## В армии начались занятия по боевой готовности

**5 февраля в Вооруженных Силах Беларуси начались трехдневные занятия по боевой готовности.**

Они пройдут во всех частях и соединениях белорусской армии и явятся своеобразным тестом на готовность работать в новом учебном году, начавшемся 1 февраля.

Руководить занятиями будут министр обороны генерал-полковник Александр Чумаков и его заместители.

**БелаПАН**

РЭПАРТАЖ

## Яны вучацца служыць Богу



Фота Віталя Гіля

**Калі нехта хоць раз переступаў парог Свята-Успенскай Жыровіцкай абіцелі, ужо ніколі, мусіць, не забудзе той атмасферы, якая вітае ў храме. Спакой і ўміратварэнне саграваюць душы людзей, якія трапляюць сюды, каб памаліцца Богу, папрасіць у яго самага запаветнага ці проста пабыць у святым месцы. Здаецца, адчай і праблемы пакідаюць чалавека, з'яўляецца надзея на лепшае.**

Маё першае знаёмства з манастыром было яшчэ ў маленстве. Я памятаю, як уразілі тады мяне людзі, якія там жывуць – семінарысты, манахі. Я была здзіўлена, як яны выстойваюць гадзінамі доўгія службы, прытрымліваюцца пастоў, адмаўляюцца амаль ад усяго характва цывільнага жыцця, каб прысвяціць сябе служэнню Богу. Для мяне, мірскога чалавека, гэта здавалася немагчымым. І па сённяшні дзень я лічу, што не кожнаму пад сілу вытрымаць усе тыя выпрабаванні, на якія добраахвотна ахвяравалі сябе слугі Божыя. Гэтыя людзі для мяне былі заўжды нейкай таямніцай, дакранушча да якой я паспрабавала нядаўна, наведаўшы Свята-Успенскі Жыровіцкі манастыр, на тэрыторыі якога знаходзіцца Мінская духоўная семінарыя.

"Прабачце, але сюды ў штанах нельга заходзіць, – затрымала мяне каля ўваходу сталая жанчына. – І без хустачкі таксама". Я разгубілася, але мне было прапанавана выйсце. "Вазьміце на прокат у нас спадніцу, а на галаву накіньце свой капюшон". У новым нарадзе я выглядала вельмі смешна, бо з-пад шырокай спадніцы былі бачны джынсы. Але трэба было захоўваць парадак, таму я не стала пярэчыць.

Першы крок, каб трапіць у манастыр, быў зроблены.

(Працяг на 2 стр.)

## У Мастоўскай міліцыі пакалечылі чалавека

**Непаўналетні мастаўчанін Максім Хандога, пасля таго як вярнуўся з міліцыі, тэрмінова быў змешчаны ў бальніцу.**

Дактары выдалілі ў яго селязёнку і з брушной поласці выкачалі каля паўтара літра крыві. Пракурор раёна Юрый Васілеўскі па факту нанясення цялесных пашкоджанняў узбудзіў крымінальную справу па арт. 4 частка 3 Крымінальнага кодэксу РБ. Згодна слоў намесніка начальніка Мастоўскага РАУС Віктара Пяцэвіча, па гэтаму факту вядзецца службовае расследаванне абласным УУС. Вядомы і асобы, якія падазраюцца ў злачынстве. Але ні міліцэйскае начальства, ні пракурор не назвалі іх прозвішчы, нават маці пацярпеўшага, спасылаючыся на таямніцу следства. Згодна слоў пацярпеўшага, а таксама сведкаў здарэння, справа адбывалася наступным чынам.

Вечарам 27 студзеня ля мастоўскага раённага Дома культуры паміж пацярпеўшым і яго сябрамі з аднаго боку і нейкім А. ды яго знаёмым адбылася бойка. Як адзначаюць відавочцы, грамадзянін А. быў на падпітку і фактычна справакаваў яе. Аднак на наступны дзень ён запатрабаваў ад Максіма і яго сяброў 250 даляраў ЗША кампенсацыі. Інакш паабяцаў усіх пасадзіць, спаслаўшыся пры гэтым на нейкага капітана. Надалей гэтыя хлопцы цераз бацькоў былі выкліканы ў міліцыю асабіста начальнікам аддзела крымінальнага вышуку Мастоўскага РАУС капітанам Жарковым.

30 студзеня Максім Хандога разам з бацькамі аднаго з сяброў, паколькі апошні не змог прыйсці, з'явіўся ў міліцыю. Яны былі адведзены на трэці паверх, дзе знаходзяцца кабінеты аператыўных супрацоўнікаў крымінальнага вышуку. Праз некаторы час іх разлучылі. Непаўналетняга Хандогу адвялі ў суседні пакой, дзверы зачынілі на ключ і запатрабавалі, каб ён прызнаўся у бойцы. Па словах Максіма, дазнанне праводзілі капітан і два яго падначаленыя. Паколькі юнак віны за сабою не адчуваў і не пацвердзжваў факту бойкі, яго пачалі біць. Затым на рукі надзелі кайданкі і звязалі вяроўкаю ногі. З дапамогаю гэтых прыладаў яму зрабілі так званую "ластаўку" і паклалі на стол, дзе зноў працягвалі біць. Як сцвярджае Максім, болей за іншых стараўся капітан. Пасля таго, як хлопцу стала кепска, яго развязалі, далі папіць вады. Ужо пасля гэтага зрабілі нейкія запісы наконт бойкі і адпусцілі. На дарозе дамоў Хандога сустрэў знаёмых, паскардзіўся, што яго збілі ў міліцыі і паказаў на руках сляды ад кайданкаў. Акрамя гэтага маюцца сляды цялесных пашкоджанняў у іншых месцах. Дома яму стала кепска. Маці выклікала хуткую дапамогу, і ў гэты ж дзень яму зрабілі аперацыю.

Цяпер Максім Хандога пераведзены з рэанімацыі ў хірургічнае аддзяленне, але стан яго здароўя цяжкі. Днямі да юнака ў палату наведаліся міліцэйскія чыноўнікі і папярэдзілі яго, каб ён маўчаў пра тое, што з ім здарылася. Аб гэтым маці пацярпеўшага заявіла пракурору.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## Людзі ў белых халатах

Нядаўна на базе слонімскіх калгасаў адбыўся абласны семінар аграрнікаў. Гэта мерапрыемства паказала гродзенскае тэлебачанне. Размова ішла пра тое, як да нас прыехалі кіраўнікі самых перадавых гаспадарак Гродзеншчыны, каб на месцы даведацца: чаму мясцовыя каровы даюць у суткі па шэсць кілаграмаў малака, а не болей? Уся выязная брыгада была падзелена на групы і раз'ехалася па фермах. Камера зафіксавала, як самавітыя мужчыны хадзілі між шарэнгаў рагуль, глядзелі, што яны ядуць, што п'юць. Той-сёй з удзельнікаў быў апрануты ў белы халат. Праўда, я вось ніяк не магу для сябе высветліць: навошта ў кароўніку такое спецадзенне? Калі для таго, каб, барані Божа, не занесці нейкую заразу, – то там сваёй больш, чым трэба. Ці каб смуродам не прапахлі скураныя дублёнкі наведвальнікаў? Тады зразумела. Рэч якраз да месца. Бо па сюжэтах было бачна, што людзі агледзелі шмат вытворчых аб'ектаў. Адразу ж на месцах абмяркоўвалі тое, што ўбачылі, што пачулі. Карацей, народ працаваў. Таму сведчыць і агульная нарада, якая прайшла ўжо ў памяшканні пасля інспектавання. Спецыялісты па чарзе выходзілі на трыбуну і гаварылі ўсё, як ёсць. У прыватнасці, на думку старшыні калгаса імя Дзеньшчыкова Гродзенскага раёна, у слонімскіх гаспадарках нізкая прадуктыўнасць у жывёлагадоўлі таму, што не хапае кармоў, а тыя, што назапашаны – нізкай якасці, дрэнна працуюць селекцыянеры і інш. І як вынік, сярэднегадавы надой малака ад каровы па раёну летась склаў 2083 кілаграмы, на 150 кг меней, чым у папярэднім годзе.

Гэты кіраўнік не проста тэарэтычна вучыў слонімцаў, як трэба працаваць. У яго калгасе адна рагуля ў сярэднім дае ў два разы болей – 4000 кг малака ў год. Канечне, гэта не тое, што ў Галандыі ці ў Ізраілі, дзе ад каровы надойваюць па 11000 кілаграмаў. І тым не менш.

Праўда, трэба адзначыць, што малочны спад наглядаецца не толькі на Слонімшчыне. Падобная сітуацыя і ў іншых раёнах нашага некалі перадавога заходняга рэгіёну. У параўнанні з 1990 годам Гродзенская вобласць знізіла вытворчасць малака на карову на адну тысячу кілаграмаў. Вось і вырашалі ўдзельнікі семінару, што трэба зрабіць так, каб зноў дасягнуць рубяжоў дзесяцігадовай даўніны. Шкада, што тэлебачанне гэты адказны момант пакінула па-за кадрам. Але трэба думаць, што ўсе прыйшлі да адзінай мудрай высновы, якую напрыканцы перадачы агучыў сам старшыня аблсельгасхарчу Вячаслаў Касцюк. Ён заявіў, што ўсім неабходна лепей працаваць.

Аднак, мусіць, ні адзін з прысутных калгасных начальнікаў на той час не прызнаў бы сябе гультаём альбо няўмекам. Наадварот, пры выпадку сказаў бы: кручуся штодня, нібы вавёрка ў коле, без выхадных, без адпускоў. А што ўрэшце маю? ГАЗік там службовы, невялічкі катэджык, сякую-такую зарплату. А тое, што каровы не дояцца, дык адкуль малаку быць? Даходы ледзь пакрываюць выдаткі. Грошай не хапае на паліва, новую тэхніку, абсталяванне і шмат чаго іншае. Нават шматмільённыя крэдыты, якія дзяржава потым дарue, не выра-тоўваюць. Колькі старшынь ужо змянілі, а зрухаў да лепшага таксама аніякіх. Пацяху сунемся ў бездань.

Самае страшнае ў дадзеным выпадку, што тыя ж самыя кіраўнікі-аграрыі, у сваёй большасці, добра разумеюць, дзе той сабака закапаны, які цягне вёску ў багну. Але разумець адна справа, а дзейнічаць – іншая. Таму і не здраджваюць яны ўсталяванаму прынцыпу – будзь як усе, і будзеш жыць. Так спакайней, бо пайсці насуперак – яшчэ страшней.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

# Яны вучацца служыць Богу

**(Працяг. Пачатак на 1 стр.)**

Пасля перамоў з царкоўным кіраўніцтвам аб мэце нашага візіту, мы накіраваліся ў будынак Мінскай духоўнай семінарыі.

Нашымі гідамі былі айцец Дзмітрый Пасечнік і Аляксандр Балоннікаў. Яны вельмі стараліся, каб наш візіт быў змястоўным і цікавым. Не ведаю чаму, але я лічыла, што семінарысты — гэта вельмі сумныя, сур'ёзныя людзі, якія амаль ніколі не ўсміхаюцца. А на самай справе сустрэла вясёлых юнакоў, якія жартавалі з намі, гаварылі на розныя тэмы. Можа толькі адным яны і адрозніваліся ад нас — ад іх веела спакоем. Мне здавалася, яны валодаюць нейкай таямніцай, якую нам не спазнаць.

"У нашай семінарыі вучацца 232 чалавекі. Некаторыя з іх прыехалі з Сібіры, Прыбалтыкі, Украіны, Малдовы", — пачаў свой расказ Аляксандр. — Семінарыя была адчынена другі раз у 1989 годзе. З таго часу было ўжо сем выпускаў. Сённяшнія семінарысты вучацца 5 год, а пасля яшчэ самыя здольныя ідуць на 3 гады ў акадэмію".

"А ў семінарыі ёсць непаслухмяныя студэнты?" — пацікавілася я. Аляксандр быў вельмі здзіўлены маім пытаннем.

"Не. У нас вучацца тыя, хто жадае атрымаць веды, — адказаў ён. — У семінарыі створаны ўсе ўмовы, каб студэнты адчувалі сябе ў сценах манастыра па-сямейнаму. У маладых людзей ёсць час, каб ацаніць самога сябе, свой выбар".

Па словах Аляксандра, за гісторыю семінарыі толькі некалькі студэнтаў не вытрымалі ўмоваў распарадку гэтай установы і сышлі.

"Гэта былі так званыя "выпадковыя" людзі, якія адчулі, што зрабілі няправільны выбар. Можа, проста не вытрымалі... Але яны не займелі злосці на Царкву", — адзначыў Аляксандр.

Сапраўды, распарадак дня семінарыі даволі спартанскі.

Мяркуйце самі:

7.00 — пад'ём.
8.00 — збор у часоўні, ранішняя малітва.
8.20 — 8.30 — сняданак.
9.00 — заняткі ў семінарыі (4 лекцыі па 70 мінут кожная).
14.35 — заканчэнне заняткаў.
14.45 — 15.15 — абед.
15.15 — 17.00 — вольны час.
17.00 — 19.45 — абавязковыя самастойныя заняткі ў бібліятэцы.
20.00 — 20.15 — вячэра.
20.15 — 22.00 — вольны час.
22.00 — 22.30 — вячэрняя малітва, у канцы малітвы — вучэбная пропаведзь.
23.00 — адыход да сну.

"Няўжо ніхто не парушае яго?" — пацікавілася я. "Бываюць выпадкі, але гэта выключэнне", — адказаў Аляксандр. "Ведаеце, строгасць сістэмы нараджае недахопы. Вось, напрыклад, студэнт усю ноч рыхтаваўся да экзамену і праспаў ранішнюю малітву, якая праходзіць у 8 гадзін. Ці ёсць падстава яго за гэта караць? У большасці выпадкаў падобныя з'явы залічваем на выдаткі вучэбнага працэсу. Але калі гэта ў студэнта становіцца сістэмай, то мусім яго неяк выпраўляць. Самае распаўсюджанае пакаранне — гэта пазачарговы нарад на кухню. Кожнае парушэнне, кожны выпадак разглядаецца ў асобным парадку", — тлумачыць Аляксандр.

Мяне вельмі зацікавілі пакоі, у якіх жывуць семінарысты. Яны мала чым адрозніваюцца ад мірскіх студэнцкіх інтэрнатаў. Можа, хіба, вызначаючыся чысцінёй, і на сценах замест плакатаў з кіна- ці попзоркамі, прымацаваны партрэты вучоных, абразы...

Цікава было пагутарыць з самімі семінарыстамі. Мяне ў першую чаргу цікавіла, як гэтыя маладыя прыгожыя людзі наважыліся на свой выбар? Як да гэтага адносяцца іх родныя, сябры? Чым займаюцца ў свой вольны час?



Жыровічы

— Мой бацька — ваеннаслужачы, — гаворыць 27-гадовы Сяргей з Брэста, — кажа, што афіцэр і свяшчэннік нечым падобныя. Першы — служыць дзяржаве, другі — Богу. Мае родныя былі не супраць майго паступлення ў семінарыю. Я лічу, што гэта маё прызванне. Праўда, сябры спачатку былі некалькі здзіўлены маім выбарам, але потым зразумелі.

— Мы выхоўваліся ў хрысціянскай сям'і, — распавядаюць брат і сястра Дзмітрый і Таццяна — таму нашы родныя былі вельмі радыя, калі Дзмітрый стаў вучыцца ў семінарыі, а я — у рэгенцкай школе. У нас у сям'і ўсе веруючыя.

Вольнага часу ў семінарыстаў амаль няма. Яны самі пякуць хлеб, займаюцца сталярнымі работамі, напрыклад, майструюць пярылы да лесвіц, працуюць на прысядзібным участку. А калі ўсё ж выпадае вольная хвіліна, яны выкарыстоўваюць яе на сваю карысць: чытаюць, займаюцца любімай справай. Нядаўна Жыровічы наведалі студэнты Гродзенскага медыцынскага ўніверсітэта, каб разам з семінарыстамі адзначыць Таццянін дзень.

"Было вельмі весела, — узгадвае айцец Дзмітрый. — Мы расказвалі адзін аднаму аб сваім жыцці, аб сабе, чыталі вершы. Адным словам, добра правялі час".

Пасля заканчэння семінарыі кожны робіць выбар — застацца манахам і пражыць усё жыццё ў манастыры (так званае "чорнае" духавенства) ці ажаніцца, атрымаць свой прыход, пайсці "у людзі", каб там, у міры, прапаведаваць Божае слова ( "белае" духавенства).

Пакідаючы семінарыю, я падумала, што, можа, сапраўды толькі вера выратуе наш народ, дасць надзею на лепшае будучае.

**Вольга ШЫНКЕВІЧ,**
**Віталь ГІЛЬ (фота)**

**СТРАТА**

## Памёр Аляксандр Дубко

**У нядзелю, 4 лютага, памёр Аляксандр Дубко — старшыня Гродзенскага аблвыканкама.**

У 63-гадовага Аляксандра Дубко здарыўся сардэчны прыступ. Хуткая дапамога прыбыла на месца, але ўратаваць яго ўжо не здолела.

Аляксандр Дубко кіраваў аблвыканкамам шэсць гадоў. У снежні 1994 года на гэтай пасадзе ён замяніў Сямёна Домаша, цяпер вядомага апазіцыйнага палітыка. А да гэтага Аляксандр Дубко працаваў старшынёй калгаса "Прагрэс".

З нагоды смерці старшыні аблвыканкама, у Гродзенскай вобласці была аб'яўлена трохдзённая жалоба. Абавязкі старшыні аблвыканкама цяпер выконвае першы намеснік Дубко па сельскай гаспадарцы Уладзімір Саўчанка.

**НАВІНЫ**

## Изъято на нашей границе

**Более 150 тысяч долларов США, 100 тысяч немецких марок, 180 тысяч российских рублей, а также другую валюту на общую сумму 252 миллиона рублей изъяли белорусские таможенники у нарушителей в январе.**

По итогам прошлого месяца, таможенники также изъяли 67 единиц автотранспорта на сумму 1 миллиард 155 миллионов рублей; 943 тысячи штук сигарет на общую сумму 34,5 миллиона рублей; 18 тысяч литров алкогольной продукции на сумму 14,5 миллиона рублей. Сотрудники таможенных органов пресекли несколько попыток вывоза икон XIX века на сумму 1,5 миллиона рублей; 306 ювелирных изделий на сумму 4,7 миллиона рублей; 152 килограмма лома и слитков цветных металлов (алюминий, медь, латунь) на общую сумму свыше 36 миллионов рублей. Помимо этого, в первом месяце года таможенниками изъято 39 килограммов лома, содержащего драгоценные металлы (палладий, платина, серебро) на общую сумму более 85 миллионов рублей.

**Алексей ОРЕШКО**

## Польский режиссер выступил в Гродно

**"Белорусское кино в Европе не знают, так как все, что создается белорусскими режиссерами, доходит к нам в российском дубляже", — отметил 4 февраля на пресс-конференции в Гродно известный польский режиссер Кшиштоф Занусси.**

В этот день г-н Занусси презентовал жителям Гродно свою новую картину "Жизнь как смертельная болезнь, передающаяся половым путем", которая получила гран-при 22-го Московского международного кинофестиваля. Все билеты на фильм в Гродно были раскуплены за день до показа.

**Павел МОЖЕЙКО**

**ЗДАРЭННІ**

## Згарэлі ў агні

**У вёсцы Дзярэчын Зэльвенскага раёна згарэў дом разам з яго гаспадаром Валянцінам Мыснікам.**

У нецвярозым стане вясковец лёг у ложак. Запаліўшы цыгарэту, ён заснуў. Ад акурка загарэўся дом. Выратаваць гаспадара і патушыць агонь пажарным не ўдалося.

У гэты ж самы дзень пажар здарыўся і ў вёсцы Горна Зэльвенскага раёна. І там прычынай пажару стала неасцярожнае абыходжанне з агнём. У выніку, згарэў дом і яго гаспадар Іосіф Жыдок.

## Злодзеі не спяць

● З дамоў №99/1 і №95, што на Брэсцкай вуліцы ў Слоніме, злодзеі ўкралі відэамагнітафон, прадукты харчавання і залатыя вырабы.

● З падвалаў жыхароў Альбярціна і Рышчыц зніклі варэнне, агуркі, памідоры, салаты.

● У калгасе "Прагрэс" Слонімскага раёна злодзей украў з машыны акумулятар.

● Пакуль гарэў хлеў у аднаго з жыхароў вёскі Партызанаўка, з яго дома злодзей украў відэамагнітафон. Міліцыя затрымала злодзея.

Узбуджана крымінальная справа.

## Гараць хлявы і хаты

● 14 студзеня ў жыхара з завулка Уз'яднання, што ў Слоніме, згарэла адна тона саломы. Прычына пажару высвятляецца.

● 24 студзеня ў жыхара Ш. з вёскі Мяльканавічы гарэла хата. Агонь пашкодзіў дахавае пакрыццё, мэблю і веранду.

● 25 студзеня ў вёсцы Залессе ў жыхаркі В. згарэла прыбудова пад летнюю кухню.

● У аднаго з жыхароў вёскі Ваўчуны гарэў дом. Агонь знішчыў мэблю і столь.

● 29 студзеня ў жыхара М. з вёскі Партызанаўка гарэў хлеў. Згарэла 2 тоны кармоў. Пажарным удалося выратаваць пяць галоў жывёлы і адну тону кармоў.

## Горкі мёд

**У апошні час у вёскі Слонімскага раёна сталі часта наведвацца гандляры мёдам і іншымі таварамі.**

Супрацоўнікі слонімскай міліцыі папярэджваюць аб асцярожных адносінах вяскоўцаў да такіх гандляроў. У вёсцы Кракотка, напрыклад, мясцовы жыхар купіў сабе мёду, але не далічыўся вялікай сумы грошай, бо іх укралі тыя ж "гандляры".

## Пажар у Дзешкавічах

**У пятніцу, 5 лютага, у вёсцы Дзешкавічы Зэльвенскага раёна адбыўся пажар.**

У агні згарэлі дом і два вяскоўцы. Аднаму з іх было 35 гадоў, другому — 52 гады. Прычыны пажару высвятляюцца.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Как директор школы стала кочегаром

**Оригинальный способ заработать деньги нашла директор Дашковичской средней школы Т. (Свислочский район Гродненской области).**

По поддельным документам она оформила на должность школьного кочегара гражданина П.. Однако этот человек ни разу так и не вышел на работу. Зато руководитель школы исправно получала причитающиеся ему по ставке деньги. Правда, пользоваться этим доходом директор смогла только в течение двух месяцев.

30 января в отношении ее было возбуждено уголовное дело по статье Уголовного кодекса — служебный подлог. Ей грозит денежный штраф или лишение свободы сроком на два года.

**Павел ИВАНЕНОК**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.97г.
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас рэдакцыі: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны:
рэдакцыі .........2-14-39
.........(017) 210-87-17
аддзел рэкламы .........2-49-39

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 7 студзеня 2001г.
Час падпісання 7:00.
Надрукавана ў Гродзенскім абласным унітарным прадпрыемстве "Слонімская друкарня", г. Слонім, вул. Хлюпіна, 16.

Падпісныя індэксы:
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
63646 (ільготная)
Наклад 9500 экз.
Заказ № 615



E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://gs.promedia.minsk.by

НАВІНЫ

## Наша калега — лаўрэат

**Названы лаўрэаты конкурсу беларускага прадстаўніцтва кампаніі "Філіп Моррыс" за лепшую газетную публікацыю па сацыяльнай тэматыцы.**

Незалежнае журы, якое ўключала журналістаў дзяржаўных і незалежных СМІ, прадстаўнікоў беларускай асацыяцыі сацыяльных работнікаў і міністэрства сацыяльнай абароны РБ, разглядзела 160 конкурсных заявак па выніках 2-га паўгоддзя 2000-га года. Асноўнымі крэтэрыямі ацэнкі публікацый былі сацыяльная значнасць, актуальнасць, арыгінальнасць, аўтарскія канцэпцыі. Пераможцамі сталі 3 чалавекі. Па аднаму ў кожнай намінацыі. У намінацыі "Мір у сям'і" лаўрэатам стала наша калега з Дзятлава Леанарда Юргілевіч. Яна атрымала грашовую прэмію і памятны дыплом.

**Вольга ШЫНКЕВІЧ**

## Каб помнілі свае карані

**Удзельнікі гуртка пад назвай "Гісторыкі-краязнаўцы", які створаны ў Ракавіцкай базавай школе Дзятлаўскага раёна, вывучаюць летапіс і тапаніміку сваёй мясцовасці.**

Яны сабралі багаты матэрыял аб роднай старонцы, даўнейшыя фотаздымкі, успаміны пажылых людзей. Напрыклад, многа цікавага расказала дзецям Зінаіда Іосіфаўна Цыгіль і іншыя аднавяскоўцы.

## Малайчына, Саша!

**Саша Панкевіч жыве ў Дзятлаве. Вучыцца ў 5 класе сярэдняй школы №1, але на заняткі не ходзіць па прычыне інваліднасці.**

Настаўнікі кожны дзень наведваюць яго дома і даюць урокі. Цяжкая хвароба не зламала волю хлопчыка, не давяла яго да адчаю. У вольны ад вучобы час ён займаецца творчасцю — выраблае мяккія цацкі. Яго работа "Коцікі" экспануецца на выставе ў Дзятлаўскім гісторыка-краязнаўчым музеі.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## Дабрачынны "Маніфест"

**Мастоўскі рок-гурт "Маніфест" даў дабрачынны канцэрт, зборы ад якога пайшлі на дапамогу дзецям-інвалідам.**

Падтрымаць гэтую катэгорыю дзяцей прыехалі таксама школьнікі Правамастоўскай школы-інтэрната, у якой выхоўваюцца дзеці з малазабеспечаных сем'яў. Канцэрт прайшоў пры перапоўненай зале раённага Дома культуры і меў поспех. Мясцовыя артысты выконвалі выключна свае песні і кампазіцыі.

## Аўтамабіль — сельсавету

**Гудзевіцкі сельскі савет прызнаны адным з лепшых у Мастоўскім раёне.**

З гэтай прычыны ўстанове падаравалі аўтамабіль. Што выклікала неадназначныя меркаванні супрацоўнікаў Луненскай участковай бальніцы.

Рэч у тым, што аўтамабіль медыкаў знаходзіцца на капітальным рамонце, і на выклікі да хворых у аддаленыя вёскі дактарам прыходзіцца дабірацца пешшу.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

# В ЕВРОПЕ НА ДОРОГАХ произошли изменения

**Изменены европейские Правила дорожного движения.**

С 1 февраля в европейских городах упрощена выдача разрешений на установку знаков, ограничивающих скорость тридцатью километрами в час. Теперь таких "замедленных" зон будет больше. Внутри такой зоны всегда действует правило правой руки — кто справа, тот и прав. На перекрестках с круговым движением вводится единое правило: тот, кто уже находится на кольце, имеет преимущество.

Включать мигалку при въезде на подобную развязку нельзя, но при выезде с такого кольца надо обязательно мигать. Пока не совсем ясно, по каким правилам будет жить Франция — там на на любом перекрестке, если не обозначено иначе, преимущество имеет тот, кто находится справа.

Вводится дополнение к тому пункту правил, который регулирует движение в месте сужения дороги — например, с двух рядов до одного.

Раньше просто говорилось, что оба потока машин, которые вынуждены сливаться в один, равноправны и должны руководствоваться, как говорят немцы, принципом застежки-молнии: одна машина справа, одна слева. Но, в отличие от СНГ, в Германии многие, увидев соответствующий знак, на всякий случай, боясь, видимо, что их позже не пропустят, начинали "сбиваться" в один ряд задолго до места сужения дороги и, как уверяют специалисты, усугубляли ситуацию. Теперь в правилах появилось указание, что слияние должно происходить непосредственно перед местом сужения.

И, наконец, последнее: велосипедисты — самый ненавистный для водителей слой населения — получают еще больше свободы: они могут на улицах с односторонним движением двигаться против общего потока. Это, правда, должно быть как-то обозначено, но какой велосипедист смотрит на знаки — даже в Германии...

**News.Battery.Ru**

# ДАЎГАБУД НА ВУЛІЦЫ ДАВАТАРА



*Так выглядае будаўнічая пляцоўка на вуліцы Даватара*

**Нядаўна прадстаўнік слонімскага жыллёва-будаўнічага кааператыва "Даватар" наведаў Мінск, дзе сустрэўся з намеснікам дзяржаўнага сакратара Савета бяспекі генерал-лейтэнантам Леанідам Мальцавым.**

Слонімец шукаў дапамогі ў земляка, былога міністра абароны Беларусі, у справе даўгабуду жылога дома для сем'яў вайскоўцаў, што павінен быць пабудаваны на вуліцы Даватара ў Слоніме. Бескватэрныя вайскоўцы ўжо некалькі гадоў чакаюць, калі ж пачнуцца работы. Пакуль яны чуюць толькі абяцанкі...

У сакавіку 1999 года Слонім наведаў Аляксандр Лукашэнка. Пабываў ён і ў 11-й гвардзейскай механізаванай брыгадзе, на тэрыторыі якой арганізаваў імправізаваную прэс-канферэнцыю. Адказваючы на адно з пытанняў, Лукашэнка сказаў наступнае: "Больш за ўсё мяне хвалюе праблема жылля для ваенных. Тут 70 ваеннаслужачых не маюць кватэр. Сёлета 60 кватэр будуць пабудаваны для гэтай брыгады. Праблема вырашыцца".

Аднак ні ў 1999 годзе, ні ў наступным праблема так і не вырашылася. Вайскоўцы па-ранейшаму застаюцца без кватэр. Будаўніцтва пачалося, але хутка спынілася, і ў Слоніме з'явіўся чарговы даўгабуд. Больш таго, многія сваі ўжо разваліліся і іх трэба аднаўляць (гл. фота).

Падчас згаданай сустрэчы генерал-лейтэнант Леанід Мальцаў паабяцаў слонімскім вайскоўцам дапамагчы ў вырашэнні іх праблемы. Застаецца спадзявацца, што на гэты раз справа даўгабуду на вуліцы Даватара зрушыцца з мёртвай кропкі.

**Сяргей ЁРШ,**
**Віталь ГІЛЬ (фота)**

ОПРОС

# КАК МЫ ЖИВЁМ?

**На этот вопрос недавно попыталась получить ответ социологическая служба ЦК Партии коммунистов Белорусской (ПКБ). Как и в предыдущих опросах, которые проводятся с 1988 года, участие приняли и жители Слонима и района. А всего по Беларуси было опрошено около 7 тысяч респондентов.**

Так как же считают наши земляки своё материальное положение. 71% респондентов или 59 человек считают, что за прошедший год их материальное положение ухудшилось по отношению к предыдущему. В начале 1999 года так считало 76% опрошенных, в 98-м — 52,8%.

Результаты ответов на другие вопросы приведены в таблице ниже.

Стоит отметить, что около половины респондентов, у которых материальное положение улучшилось, часто отказывают себе в продуктах питания, лекарствах и необходимой одежде.

Стоит обратить внимание, что на третий вопрос исследования: "Если Вы считаете, что жизнь ухудшается, то кто, прежде всего, виноват?" — ответы распределились следующим образом: правительство и органы местной власти — более 54%, годом ранее так считало 52% опрошенных, в 99-ом и 98-м годах — по 41%. С каждым годом уменьшается число граждан, которые убеждены, что их сегодняшнее материальное положение определено развалом СССР. Сегодня так полагает только четвёртая часть респондентов, в 1998 и 1999 годах они составляли две трети опрошенных.

Третья часть респондентов считают, что в ухудшении их жизни виноват президент. Если в 1999 году этот вариант ответа выбрало 25% опрошенных, то в последние два года так думают почти 44%.

Как показывают результаты опроса, люди не считают, что в ухудшении их жизни виновны политические партии, предприниматели, Верховный Совет XIII созыва, правительство и президент России. За последнее время убавилось число и респондентов, полагающих, что в ухудшении их материального положения следует винить Запад и оппозицию.

На вопрос, какой есть путь к улучшению жизни, только около 27% опрошенных могли сказать, что они будут самостоятельно искать его, не нарушая закон. В прошлом году такой вариант выбрало 40% респондентов. Терпеливо ждать наступления лучших времён готовы 21,6% опрошенных. В прошлом году такой вариант ответа предпочли только шесть процентов сограждан, принявших участие в исследовании.

Анализируя данные опросов, можно сказать, что значительно увеличилось число людей, готовых нарушить закона ради улучшения своего материального положения. Сегодня на таком варианте ответа остановились 17% респондентов.

Кого вы поддерживаете на предстоящих выборах президента? Отвечая на этот вопрос, 53% слонимских респондентов не будут поддерживать на осенних президентских выборах Александра Лукашенко. За него готовы голосовать 27,8% опрошенных, а 19,2% принявших участие в проводимом опросе, затруднились сделать свой выбор.

Стоит добавить, что в проведённом социологическом опросе приняло участие 83 человека (36 мужчин и 47 женщин), в возрасте от 28 до 70 лет, проживающих в г. Слониме и Слонимском районе.

Среди них высшее образование имеют 17 человек, среднее или среднее специальное — 63 человека, начальное — 3 человека, Респонденты представляли все слои населения: рабочих, служащих, работников образования и культуры.

**Виктор ГЕРАСИМЧИК, руководитель социологической группы при Слонимском райкоме ПКБ**

| | 1998 г. | 1999 г. | 2000 г. | 2001 г. |
|---|---|---|---|---|
| Осталось на прежнем уровне | 32,8% | 31% | 20% | 20% |
| Улучшилось | 14,2% | 7% | 4% | 4% |

НАВІНЫ

## Утылізацыя змяніла адрас

**У сувязі з пераабсталяваннем кацельні пры Мастоўскай райбальніцы ўзнікла праблема з утылізацыяй медыцынскіх адыходаў.**

Напачатку іх меліся знішчаць у Гродне, але, згодна інструкцыі дваццаціпяцігадовай даўніны, пры выкананні адпаведных нормаў медыцынскія адыходы можна знішчаць і ў мясцовай кацельні. Таму было вырашана выкарыстаць для гэтых мэтаў кацельню ААТ "Мастоўдрэў".

Зацікаўленыя службы прадугледзелі ўсё, акрамя аднаго: чалавечай цікавасці. Адзін з рабочых вырашыў паглядзець, што ў скрыньцы, і... убачыў там чалавечую нагу.

Узбуджаныя рабочыя, якія напярэдне былі выдалены з кацельні, адмовіліся нават ад абеду. Мастаўчане помняць выпадак, калі некалькі гадоў таму назад па неабачлівасці медыкаў сабака ў якасці харчу здабыў чалавечую нагу. Міліцыянеры, атрымаўшы першапачатковую інфармацыю, падумалі, што ў Мастах адбылося дзікунства — расчляненне трупа, — але сярод іншых версій яны вылучылі і медыцынскую, і іх меркаванне спраўдзілася. Паколькі Масты — невялікае мястэчка, то тая неардынарная падзея надоўга засталася ў памяці яго жыхароў.

## Мастаўчанкі хочуць быць лідэрамі

**У мінулыя выхадныя Мастоўскае аддзяленне грамадскага фонду "Дзецям Чарнобыля" сумесна з мінскімі партнёрамі правялі семінар па тэме жаночага лідарства.**

Тры дзесяткі мастаўчанак на працягу двух дзён праслухалі не толькі цікавыя лекцыі, але і мелі трэнінгі па рознай тэматыцы, што датычаць паводзін жанчын у розных жыццёвых варунках.

## Продаж адмяняецца

**Мастоўскія ўлады беспаспяхова спрабуюць наладзіць конкурс продажу камунальнай маёмасці.**

Першыя спробы правесці гэтае мерапрыемства былі гадоў шэсць назад. Тады на продаж выстаўляўся будынак былога раённага дома культуры і меліся пакупнікі, але перад імі былі пастаўлены непрымальныя ўмовы: вялізны будынак павінен быў набыць адзін суб'ект гаспадарання ці адна асоба. Не адбыўся падобны конкурс і праз год, бо не знайшлося пакупнікоў. Нядаўна Мастоўскі райвыканкам вырашыў зноў правесці конкурс продажу камунальнай маёмасці, але тут жа аб'явіў аб даце яго пераносу. У гэты раз прычынай стала пера-ацэнка асноўных сродкаў арганізацый згодна Пастановы Міністэрства статыстыкі і аналізу РБ.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## Вечер Владимира Высоцкого

**В СШ № 8 г. Слонима прошёл вечер, посвящённый памяти Владимира Высоцкого. Главным организатором вечера была Елена Дзюба.**

Ученики старших классов смогли поближе познакомиться с творчеством кумира, узнали много интересного из его жизни. На вечере были показаны фотографии В. Высоцкого и отрывки из кинофильмов с его участием. Ученики сами исполняли песни Владимира Высоцкого на гитаре.

**Инна МОЙСЕЙЧИК**

## КУДИНОВ ВЫШЕЛ НА СВОБОДУ

**5 февраля в 15.10 из колонии усиленного режима УЖ 15/1 отпущен на свободу депутат Верховного Совета Беларуси 13-го созыва Владимир Кудинов.**

У ворот тюрьмы его встречали родственники, журналисты, политики, в том числе Александр Добровольский, Вячеслав Сивчик, Людмила Грязнова, Валерий Щукин.

Освобождение Владимира Кудинова произошло после того, как суд Борисовского района Минской области пересмотрел его уголовное дело в связи с введением в действие 1 января 2001 года нового Уголовного кодекса. Новый УК Беларуси предусматривает за дачу взятки — а именно в этом был обвинен Кудинов — более мягкое наказание.

Напомним, что депутат Кудинов был приговорен к 7 годам лишения свободы 4 августа 1997 года. Сам он категорически не признал своей вины, считая, что его уголовное дело было сфабриковано в отместку за участие в попытке объявления импичмента президенту Лукашенко. Новый Уголовный кодекс предусматривает за дачу взятки (часть 2 статьи 431) максимальное наказание до пяти лет лишения свободы.

Исходя из этого, суд Борисовского района снизил опальному депутату наказание до пяти лет. Кудинов был арестован 4 февраля 1997 года и в местах лишения свободы находился без малого 4 года. Учитывая, что к нему дважды применялась амнистия, и срок заключения был сокращен на 2 года, после нынешнего приговора районного суда заключение депутата равняется трем годам.

**Геннадий БАРБАРИЧ**

## БОЛЬШАЯ ЧАСТЬ ЗАРПЛАТЫ УХОДИТ НА ПИТАНИЕ

**Национальный исполнительный комитет (НИК) — теневое правительство Беларуси — заявил о намерении подготовить платформу для демократических кандидатов в президенты.**

Документ будет представлять из себя набор необходимых, по мнению членов теневого правительства, преобразований в белорусском обществе. Каждый из кандидатов в президенты может воспользоваться любой частью платформы.

На заседании НИК Василий Шлындиков привел ряд цифр, характеризующих экономику Беларуси в 2000 году. К примеру, по его данным, 63 процента доходов населения в прошлом году ушло на продукты питания, что на 10 процентов больше, чем в 1999-м. По его словам, это свидетельство постепенного обнищания народа. 23 процента предприятий в 2000 году оказались убыточными, еще столько же вплотную подошли к этой черте. Таким образом, каждое второе предприятие в Беларуси работало неэффективно.

**Владимир ГЛОД**

## У ПРЕЗИДЕНТА СВОЙ БЮДЖЕТ

**Сотрудники Федерального бюро расследований США арестовали в городе Майами гражданина Перу Венеро Гарридо, который, кроме прочего, подозревается в мошенничестве при закупках оружия для перуанской армии в странах Восточной Европы, в том числе в Беларуси.**

ФБР сообщило, что Гарридо несколько недель назад положил на счет в банке Майами 15 миллионов долларов США. Следствие считает, что эти деньги он получил от мошенничества с недвижимостью, пенсионными фондами и оружием.

Согласно разным источникам, Перу закупила в Беларуси, начиная с 1996 года, от 12 до 21 истребителя "МиГ", от 14 до 18 штурмовиков "Су-25", а также системы противовоздушной обороны. Как сообщает американское издание Christian Science Monitor, общая сумма контрактов только на поставки "МиГов" из Беларуси и запасных частей к ним из России составила почти миллиард долларов США.



До сего времени неизвестно, куда пошли деньги, полученные Беларусью от этих контрактов. Однако, выступая на сессии Совета Республики Национального собрания 19 декабря прошлого года, белорусский руководитель Александр Лукашенко заявил, что за средства от продажи излишков вооружений в стране строились, в том числе спортивные дворцы. "Я из бюджета копейки не взял", — сказал тогда Александр Лукашенко.

**БелаПАН**

## В СТОЛИЦЕ БЕЛАРУСИ ЗАДЕРЖАЛИ 26 ХАКЕРОВ

**За последние десять дней сотрудники минской милиции задержали и привлекли к уголовной ответственности 26 жителей столицы Беларуси, подозреваемых в совершении преступлений с использованием компьютерных технологий.**

В отношении хакеров возбуждено 28 уголовных дел и применена мера пресечения — подписка о невыезде.

По сообщению "Интерфакса", задержанные незаконно проникали в компьютерные системы иностранных фирм, которые осуществляют сделки через Интернет-магазины.

Согласно новому УК Беларуси, который вступил в действие с первого января 2001 года, за хищения с использованием компьютерных технологий преступники могут быть лишены свободы на срок от шести до 15 лет с конфискацией имущества.

По сведениям сотрудника ГУВД, более 50 процентов виртуальных преступлений, совершаемых хакерами из стран СНГ, "имеют минский след".

Для раскрытия подобных преступлений в криминальной милиции ГУВД Минска будет создано новое подразделение, которое займется раскрытием преступлений в сфере высоких технологий.

**Страна RU**

## У КАЖДОГО ЛИЦА будет свой номер

**Пресс-центр Государственного налогового комитета (ГНК) Республики Беларусь распространил сообщение, в котором напоминает о том, что в соответствии с законом "О подоходном налоге с физических лиц" граждане, получающие доходы из двух и более источников, обязаны не позднее 1 марта предоставить в налоговые инспекции по месту жительства декларации о доходах, полученных за истекший календарный год.**

Кроме того, согласно постановлению правительства от 17 августа 2000 года физические лица, доходы которых подлежат декларированию, обязаны зарегистрироваться в качестве налогоплательщиков в налоговом органе по месту жительства не позднее 15-ти дней до срока, установленного для предоставления декларации о доходах. Им будет присвоен учетный номер налогоплательщика (УНН). Его присвоение, как подчеркивают в ГНК, будет производиться бесплатно.

В нынешнем году лица, предоставляющие декларацию о совокупном годовом доходе впервые, обязаны подать заявления о присвоении УНН до 15 февраля.

**Наталья КУЛАГИНА**

## НЕ ОБИЖАЙТЕ предпринимателей

**Министерство предпринимательства и инвестиций (МПИ) предложило другим органам исполнительной власти объявить мораторий на привлечение индивидуальных предпринимателей к ответственности за невыполнение постановления Государственного таможенного комитета о таможенном оформлении товаров, произведенных в третьих странах и ввезенных в Беларусь из России.**

Как сообщила БелаПАН пресс-секретарь министерства Ольга Пещур, соответствующие письма за подписью главы МПИ Анатолия Скорбежа направлены в Государственный таможенный комитет, Государственный налоговый комитет, Госкомитет финансовых расследований, а также на имя первого вице-премьера правительства Андрея Кобякова. В письмах предлагается объявить мораторий на применение санкций до принятия изменений в постановление ГТК и другие нормативные акты, освобождающих предпринимателей от уплаты таможенных пошлин в случае, если стоимость ввозимой ими в страну партии товара не превышает 1.500 евро. По словам Пещур, обращение Скорбежа в ГТК, ГНК и ГКФР вызвано действиями контролирующих органов. "В министерство начали поступать жалобы предпринимателей, которые стали объектами претензий со стороны проверяющих структур. К решению их проблем вынужден был подключиться первый заместитель министра Александр Швец", — сказала пресс-секретарь МПИ.

По словам Ольги Пещур, ответа на обращения министра предпринимательства и инвестиций пока не получено.

Необходимо отметить, что до того как в МПИ начали поступать жалобы предпринимателей, санкции не применялись к ним несколько месяцев — с момента принятия постановления ГТК 20 сентября 2000 года до нового года. Немалую роль здесь сыграли устная договоренность Скорбежа с контролирующими и силовыми структурами, а также однодневная забастовка индивидуальных предпринимателей, которая прошла в ноябре.

**Дмитрий ВЛАСОВ**

## ЛУКАШЕНКОВСКИЕ СТАРТЫ

**Каждый год в Беларуси проходят лыжные соревнования, в которых побеждает президент.**



Фота IREX/ProMedia

В прошлую субботу в расположенном вблизи Минска спорткомплексе "Раубичи" был дан старт пятому по счету лыжному пробегу, инициатором которого в свое время выступил Александр Лукашенко.

Кроме президента на дистанцию в "добровольно-принудительном" порядке вышли члены правительства, включая всех силовых министров, сотрудники администрации президента и столичной мэрии, ответственные работники менее значимых по статусу госучреждений. Все те, кто плохо стоит на лыжах или имеют проблемы со здоровьем, должны встречать финиширующих.

Это спортивное мероприятие проводится ежегодно в любую погоду. В 2000 году, например, работникам СК "Раубичи" и срочно вызванным военнослужащим пришлось изрядно потрудиться, чтобы привести в более или менее пригодное состояние испорченную дождем дистанцию. В нынешнем году погода не подвела — накануне прошел обильный снегопад.

На всех предыдущих соревнованиях неизменным победителем был сам Александр Лукашенко, который пересекал финишную черту в окружении многочисленных сотрудников службы безопасности. За ним, строго следуя иерархии, к финишу приходили министры, начальники управлений и т.д.

Нынешняя лыжная гонка имеет некоторые особенности. В частности, впервые в стенах министерства спорта и туризма составлен план проведения гонки, согласованный с администрацией президента и службой безопасности. В соответствии с ним строго ограничен доступ в "Раубичи" посторонних, в том числе и "нечестных" журналистов. Еще на дальних подступах их машины останавливали сотрудники ГАИ. Находящиеся в спорткомплексе автостоянки были заблаговременно закрыты. На всем протяжении 25-километрового участка шоссе от Минска стояли милиционеры и атлетически сложенные парни в кожаных куртках.

Массовость обеспечивают сотни доставленных автобусами членов Белорусского патриотического союза молодежи. "Лукомольцы", размахивая флагами и выкрикивая лозунги, должны поддерживать спортивный пыл президента на трассе. Разыгравшийся голод участников лыжни, как и в прежние годы, утолит управление делами президента. Кто же откажется от бесплатных шашлыков, драников и жареной картошки. Разочарованными остались лишь те, кто не прочь после прохождения трассы "усугубить". Что поделать, Александр Лукашенко — воинствующий трезвенник.

**Сергей АНИСЬКО, "Сегодня"**

## БОРОДИНА ХОТЕЛИ ПОМЕНЯТЬ НА ШПИОНА

**С начала нынешней недели в Беларуси в журналистских и дипломатических кругах появились слухи о том, что президент республики Александр Лукашенко предлагал американским властям поменять находящегося в Бруклинской тюрьме в Нью-Йорке государственного секретаря Союзного государства Павла Бородина на гражданина Германии, арестованного 16 сентября 2000 года в Беларуси по обвинению в шпионаже.**

31 января о существовании подобного предложения белорусского лидера написала российская газета "Сегодня". Но, по ее версии, Александр Лукашенко предлагал вариант обмена П.Бородина на немецкого гражданина не американским, а российским властям в ходе своего неожиданного прерванного последнего визита в Москву. "Однако, посчитав, что одного "шпиона" за "крупного госчиновника" будет маловато, Александр Григорьевич предложил выпустить из российской тюрьмы арестованного в прошлом году в России некоего "агента ЦРУ", — пишет "Сегодня". — Но в Кремле подобное предложение расценили как "шантаж", что вызвало гнев Александра Лукашенко и ускорило его отъезд в Минск. На Лубянке, которая в принципе не отвергает обмена их "шпионов" на наших "разведчиков", идею обменять кого-либо на союзного госсекретаря Павла Бородина не комментировали. Дескать, конкретной задачи по обмену не ставилось".



Фота IREX/ProMedia

В пресс-службе Совета безопасности Беларуси на просьбу корреспондента БелаПАН прокомментировать появившиеся слухи о предложении белорусского президента обменять Павла Бородина на гражданина ФРГ ответили: "Без комментариев". А в одном из подразделений Комитета государственной безопасности, которое (КГБ, а не подразделение) занимается расследованием уголовного дела в отношении немецкого гражданина назвали все это "легким домыслом журналистов, несоответствующим действительности". Кроме того, там не смогли вспомнить, чтобы в международной практике имели место случаи обмена шпиона на человека, преследуемого правосудием по подозрению в совершении обычного уголовного преступления.

**БелаПАН**

